# БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

Адрэс: Рэдакцыі Ново-Серпухуская 29. Адміністрацыі Захароуская «Юбілейны Дом».

Рэдакцыя адчынена ад 1 до 2 гадз. насьля поудня.
Адміністрацыя—зрана ад 10 да 2 гадз. У вечары ад 5 да 7 гадз.

Рэдакцыя пакідае за сабой права папраулянь перасыланые рукапісы і карэспондэнцыі.

Цана асобн. нум. 15 к.

Надпіска: з дастаукай да дому у Мінску на 1 месяц 3 руб.

Цана абвестак: за верш пэтыту на 1-й стран. 1 руб. на апошняй—50 к. п.

Штодзенная грамадзка-палітычная газэта.

№ 92. Менск. Чачьвер 18 ліпня 1918 г. Год I


## АБВЕСТКІ.



## Агульныя весткі.

МАСКВА (В.Т.Б.) Англіцка-амэрыканскія войскі, згодна з газэтнымі весткамі занялі усю паўночную часьць Мурманскай чыгункі, абнімаючы Кем, і йдуць на Сарокі. Начальнік саюзьніцкіх войск: англіцкі адмірал Кэмп, француз дэ ля Говро і начальнік амэрыканскіх войск, — разам з мяйсцовым саветам выпусьцілі адозву, кажучы, што яны занялі гэты абшар дзеля абароны ад немцаў і фінляндцаў. Расія цяпер безрадна, і Мурманскае узбярэжжо становіць уласнасьць савецкаго ураду, але толькі пад апекай саюзьнікаў.

Паўстанне у Маскве закончэно. Паадзінокія будоўлі шмат пацярпелі ад артылерыі. У Яраславе палажэнне сур'ёзнае. Між Чэлябінскам і Омскам паны палажэння – чэхославакі. Чыгунка Вологда-Бугульма разарвана. С прычыны нестачы войск урадовыя уласьці пакінулі Уфу і перэбраліся у Бірск.

ХАРБІН (В.Т.Б.) Хорват перанёс свой урад у Гродэково. Ен вядзе перэговоры с чэха-славакамі у Нікольску. У сваей адозве ён трэбуе аднаўлення усіх умоў с саюзьнікамі, скасавання нацыяналізацыі і социялізацыі таргоўлі і прамышленасьці.

БАЗЭЛЬ. Саюзьнікі узялі паўвостраў Кола з яго нізамерзаючымі гаванямі. Англіцкія газэты лічуць пацаванне саюзьнікаў у Кола абезпечэным.

МАСКВА (В.Т.Б.) На мейсцо Мураў'ева за глаўнакамандуючаго войскам, якое выступіло процiў чэха-славакоў, назначэн Казайтіс, начальнік латышскай дывізіі.

ВЕНА. З Расіі, як паказывае ваечны міністар, вярнулося каля паўмільёна аўстрыяцкіх палонных.

МАСКВА (П.Т.А.). На месцы ўгоды між Расіей і Фінляндзіей мірныя перагаворы будуць адбывацца ў Ярэвалі. Галавой расійскай дэлегацыі будзе расійскі пасол у Швэцыі, Воровскій.

МАСКВА (В.Т.Б.). 14.VII. Даходы расійскай рэспублікі за першае паўгоду 1918 г. на 300 мільёнаў больш, як у леташнім гаду. Выдаткі на дэмобілізацыю арміі і т. п. даходзяць 4 мільярдаў 962 мільёнаў рублёў. Леташнія расходы на гэта даходзілі блізка 23 мільярдаў руб.

ШТОКГОЛЬМ. На параходзе «Ingirmanland» быу прыпадак сьмерці ад халеры.

БЭРН (В.Т.Б.). Англіцкія газэты прызнаюцца, што ўраджай у Англіі с прычыны сушы нідобры. Лёрд Рутленд прапануе ў газэце «Times», каб духавенство рабіло публічныя набажэнствы аб даждж. Ен піша: «ужо два месяцы, як ні йшоў дождж, збожжо сохне с кожным днём, корневыя расьліны так сама сохнуць. Добры ўраджай мае быць толькі сена і бульбы.

ВАШЫНГТОН [Рэўтэр]. Сэнат прыняў рэзалюцыю, даючую право прэзыдэнту ўзяць пад свой кантроль тэлеграфы і тэлефоны.

КОПЭНГАГА. Між Расіей і Даніей ідуць перагаворы аб дастаўцы Расіяй у Данію лёну, канаплі і мэталаў, каторыя будуць вернены ў Расію ў форме выпрабленых з іх тавараў

БЭРЛІН (Гавас). Брандінг вярнуўся с француского фронту. Ен сказаў, што здаволен бачэным.

БЭРН. Амэрыканскія газэты высказываe сільнае віздавольство новай японскай праграмай будавання флоту.

БАЗЭЛЬ. За апошнія два годы ў Амэрыку зусім ні даходзілі нямецкія газэты.

## Краевая інтэлігэнцыя.

Паміж палітычнымі і культурнымі беларускімі дзеячамі, лік які у некалькі разоў павялічыўся тут ад часу пераварату у Расіі, ёсьць людзі, выхаваныя пад уплывам двух культур—расійскай і польскай.

Хаця бадай у кожнаго з гэтых нашых дзеячоў беларуская справа стаіць на першым пляне і беларускі нацыянальны дух відаць с кожнаго яго слова, але зусім натуральна, што выхаванне у той ці іншай чужой культуры, упітаная з маленства, ад школьнай лаўкі, потым пры болей шырокіх жыццёвых абставах пры агульна-грамадзкай працы, —даець сябе знаць.

І вось у часьці беларускіх дзеячоў выяўляюцца два лагеры, упікаючыя адзін аднаго.

— Чаму вы гаворыце па польску, занадта сымпатызуеце палякам?—кажуць адны.

— Чаму вы гаворыце па расійску, мабыць да маскалёў цягнеце?—кажуць другія.

Вось дзеля гэтай самай штукі,— спадшчыны чужых культур, якія соткамі гадоў калечылі беларускую душу, выходзяць шмат спрэчак на беларускай палітычнай арэні, ўзмоцовываюцца спаміж іх часамі нідаверы паміж станамі, партыямі, клясамі і г. д.

Ні задумываючыся глыбей аб прычыне прычын у гэтакіх разрэзах у поглядах, яны робяць тое, што тармозяць агульную беларускую работу.

Аказываецца, што у частцы нашай краёвай беларускай інлігэнцыі ёсьць адзін кій, каторым яны бьюць адзін аднаго рознымі канцамі і гэтым самым тармозюць агульную беларускую нацыянальную працу.

Трэццяя партыя старых беларускіх піанэраў, інтылігэнтаў-сыноў народу, якія ужо дзесяткамі гадоў гаворуць усюды толькі на беларускай мове гаворуць і пранікнуты наскрозь беларускай культурай, стараецца як кольвек улагодзіць гэтыя ніпрыемлімыя адносіны паміж беларускімі дзеячамі праваслаўнымі і каталікамі, якіх соткамі дала нам рэвалюцыя у Расіі (з болей народных элемэнтаў рабочаго стану расійская рэвалюцыя дала нам дзесяткамі тысяч новых людзей).

Мы пэўны, што пасьля поўтарагадовай жыццёвай практыкі у беларускай працы, ба-

